"Бывай здаровы, мужыцкі народзе! Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе". К.Каліноўскі.



# СПАДЧЫНА

АСВЕТНІЦКАЯ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА ЛЁЗНЕНШЧЫНЫ. № 1 (15), студзень 2002г.

## Набыць волю да развіцця




Пасля бурнага 2001 года Беларусь уступіла ў ціхі 2002 год. На прэзідэнскіх выбарах беларусы не выкарысталі шанц да пераменаў, бо большасць электарату з двух бед выбрала, па свайму меркаванню, меншую. Але калі б большасць была б здольна да эфектыўнага развіцця, то сёння ў беларускіх сем'ях так востра не стаяла б праблема жабрацтва і знаходжання сродкаў да прыстойнага жыцця.

На жаль, у электарату ўжо не засталося больш шанцаў шляхам дэмакратычных працэдур 50% плюс 1 голас вызначаць свой лёс. Відавочна, што адхіленне ад улады нелегітымных структур будзе адбывацца шляхам масавых пратэстаў пры радыкалізацыі настрояў у грамадстве. Сёння на Беларусі законсервавана постсавецкая ментальнасць, якая не здольна да самаразвіцця. Беларускі заказнік саўковасці можа толькі выклікаць здзіўленне і спачуванне да яго жыхароў. Неабмежаваная прэзідэнская ўлада дэмаралізуе грамадзян, ператварае іх у шрубікі бязглуздай дзяржаўнай машыны. Розныя нарады, парады, указанні "бацькі" сведчанне абмежаванасці інтэлекта кіруючай "эліты" краіны. Карацей кажучы, сляпыя вядуць сляпых.

Калісьці, на самым пачатку перабудовы, даволі часта гаварылася пра тое, што для якасных пераўтварэнняў неабходна мець 2% актыўных грамадзян, якія ведаюць што і як рабіць дзеля рэформ. Але да сёняшняга дня на Беларусі на парадак менш грамадзян гатовых ініцыяваць рэформы. Напрыклад сістэма незалежнага назірання склалася з 12 тысяч назіральнікаў, якія больш-менш паспяхова правялі назіранне за выбарамі. Ініцыятыўныя групы па збору подпісаў за Домаша, Ганчарыка былі ў межах 4-5 тысяч грамадзян. Гэта вынік анамальнага развіцця нашай краіны за апошнія тры з паловай стагоддзі.

Але жыццё працягвасцца – запаволена, хаатычна, дэпрэсіўна. З хаатычнага імкнення грамадзян забяспечыць сваё жыццё паціху складваецца сярэдні клас гандляроў. Як дзяржава не ціснс прыватных гандляроў падаткамі, ліцэнзіямі, паборамі, але, як трава праз асфальт, яны прабіваюцца да паўнавартаснага жыцця, запаўняючы міні-рынак, будуючы шапікі па ўсяму райцэнтру. Яшчэ больш іх выязджае на гандаль у Расію. І іх немагчыма пераканаць у перавагах саўковага сацыялізму, які захаваўся на Беларусі, ім не магчыма дурыць мазгі, як спіўшымуся электарату. Нашы гандляры праехалі па-еўрапейску абсталяваныя Польшчу, Літву, Латвію ды і ў Расіі з Украінай зусім іншае жыццё, зусім іншая атмасфера ў грамадстве.

Другой актыўнай плыняй у грамадстве сталі працоўныя эмігранты, якія дзеля атрымання прыстойнага ўзроўня жыцця падаліся на заробкі ў Расію, Еўропу, ЗША. Іх досьвед сведчыць, што маючы жаданне працаваць магчыма зарабіць на прыстойнае жыццё ў любой краіне, акрамя Беларусі. Але нажаль, для значнай часткі нашых суайчыннікаў гэта стала эміграцыяй.

Волю да развіцця дэманструюць і актывісты дэмакратычных сіл, супраць якіх дзейнічае моц усяго дзяржаўнага апарату. Але актывісты, шануючы свабоду і права, прапануюць грамадству альтэрнатыву дэмакратычнага развіцця. Менавіты актывісты НДА склалі аснову незалежнага назірання на апошніх выбарах, якое засведчыла іх недэмакратычны характар, злоўжыванне ўладамі адміністратыўным рэсурсам і ігнараванне прынцыпаў свабоды і роўнага выбару.

Відавочна, што пры ўсім імкненні рэжыма вярнуць Беларусь у таталітарнае грамадства гэтага не атрымаецца. Бо змяніўся постсавецкі свет, бо утварыліся групы прыхільнікаў дынамічнага дэмакратычнага грамадства ў нашай краіне. Але лепшае жыццё ніколі не прыдзе само. Яно прыходзіць толькі да тых, хто праяўляе волю да развіцця. Іншага не дадзена.

*Тарас Халецкі*

## Стваральніку беларускай граматыкі Браніславу Тарашкевічу – 110 гадоў

Беларускі народ вылучыў з свайго асяроддзя гэтулькі слынных сваіх сыноў, што сённяшняе жыццё адно можа трымацца толькі на іх імёнах.

20-га студзеня 2002 года—110 гадоў з дня народзінаў аўтара першай беларускай граматыкі для школ Браніслава Тарашкевіча(1892-1938), *беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча.* З 1916 па 1918 год ён праціваў на кафедры рускай мовы і славеснасці Петраградскага універсітэта. Загадваў культурна-асветніцкім аддзелам Беларускага нацыянальнага камісарыяту, яго Петраградскага аддзялення.У 1917 годзе адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1918—Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі.У 1919 годзе выкладчык грэцкай і беларускай моў у Менскім педагагічным інстытуце. У 1920 годзе загадчык беларускага сектара дэпартаменту асветы так званай Сярэдняй Літвы, у 1921-1922 гадах дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў Таварыства беларускай школы. У 1922 годзе Браніслаў Тарашкевіч выбраны дэпутатам Сейма Польшчы, дзе ўзначаліў Беларускі пасольскі клуб(да 1924 года). З трыбуны Сейма выступаў у абарону *сацыяльных і нацыянальных правоў працоўных* Заходняй Беларусі. У 1925 годзе Браніслаў Тарашкевіч выйшаў са складу пасольскага клуба і з групы левых дэпутатаў заснаваў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, дзе быў старшынём ЦК. У 1925г. стаў чальцом КПЗБ. У 1927г. арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, а ў траўні 1928 года асуджаны на 12 гадоў турмы. У 1930г. вызвалены адмысловым распараджэннем Прэзідэнта Польшчы, а ў 1931 годзе зноў арыштаваны дэфінзівай і ў лістападзе 1932 года асуджаны за палітычную дзейнасць на 8 гадоў катаржнай турмы. З верасня 1933 года ў выніку абмена палітвязнямі Тарашкевіч жыў у СССР, займаўся навуковай і літаратурнай дейнасцю.

29 лістапада 1938 года ў Менску Браніслаў Тарашкевіч быў растраляны бальшавікамі.

*«Наша Слова»*

# Беларусь у Эўропе

**Underdogi**

Нашае "вяртаньне ў Эўропу" чымсьці нагадвае каланізацыю Амэрыкі. Спачатку Бостан зь Нью-Ёркам апанавалі англасаксы, для якіх каланісты наступнай хвалі — немцы альбо ірляндцы — былі *недачалавекамі*, "падсабчнікамі". Потым палякі й украінцы былі такімі ж недачалавекамі адносна немцаў з ірляндцамі. Нарэшце, пуэртарыканцы і другія "лацінасы" выявіліся недачалавекамі адносна палякаў. Цяпер "падсабачнік" адносна пуэртарыканца — гэта "выхадзец з былога СССР"...

Тое самае зь "вяртаньнем у Эўропу". Спачатку палякі, чэхі і вугорцы. Потым славенцы, харваты і славакі. За імі эстонцы, латышы і літоўцы. Пасьля румыны з баўгарамі. А вось украінцы, беларусы, сэрбы, македонцы і ўся Расейская Фэдэрацыя — гэта па-ранейшаму нават не "падсабачнікі", але *Блізкі Ўсход*.

**Расея**

Нам абрыдла *ўласная самарусіфікацыя*, якая сталася незваротнай, нас душаць начамі кашмары. Што будзе зь беднымі беларусамі, калі расейскі драпежніцкі капітал іх прыватызуе? Беларусы проста ўпэўненыя, што з прыватызаванага прадпрыемства многія павылятаюць... А як жа ж! Бо мы ўтрох адну лямпачку закручваем — адзін стаіць на падстаўцы і трымае лямпачку, другі тую падстаўку круціць, а трэці бегае вакол і махае рукамі, каб роўна заходзіла...

Без расейскага капіталу беларуская гаспадарка проста лясьнецца. Ёй грошы патрэбныя. А грошы ня маюць нацыянальнасьці.

Расейская Фэдэрацыя пачатку XXI ст. і Расейская Імпэрыя канца XIX ст. — гэта *дзьве розныя дзяржавы*. А без "імпэрыялізму" Расея *рассыпецца*. І будзе не адна вайна ў Чачэніі, а дзясятак... паўсюдна.

А "расейскі капітал" не абавязкова ёсьць правадніком імпэрыялізму. Бо які ж гэты капітал "расейскі"? Пры той *глябалізацыі* нават брокер, маклер і злодзей не разьбяруцца, што каму належыць. "Газпрам" — гэта *не Расея*. "Газпрам" — гэта *"Газпрам"*.

**Польшча**

Польшча таксама даўно ўжо ня Рэч Паспалітая, *сухапутная імпэрыя*, якая стагодзьдзямі канкуравала з Масквой і Турцыяй за дамінаваньне на Ўсходзе. Польшча шчасьліва прайграла і па-за асобнымі рэцыдывамі амаль пазбылася імпэрскіх комплексаў. Адзін касьцёл спрабуе гуляць у місіянэрства на ўсходзе, вывучаючы па дарозе беларускую мову. А палітычная лінія яшчэ ад часоў Герка выразна павярнулася на *Захад*.

**Беларусь у пошуках месца**

Толькі цяпер, па дэкадзе 1991—2001, *усім* зразумела, што нідзе тая Рэспубліка Беларусь не падзенецца, бо нікому яна не патрэбная. Хоць ты СНД прыдумай, хоць "саюз чатырох", хоць "саюз з Расеяй"...

Гэтак званая *лібэралізацыя вярхоў* "антынароднага і таталітарнага" (толькі вярхоў, не райцэнтраў!) цяпер непазьбежная. Пачнуцца спацелыя і нудныя пошукі, чаго б такога *пазычыць* у пабітай апазыцыі (ад "першага БНФ" пачынаючы!) — з геапалітычных ідэяў, гістарычна-нацыянальных легендаў... А пазычыць там... няма чаго. *Настальгія там.* Дысэртацыі абароненыя і неабароненыя. "Позірк назад..." На свой уласны, трэба думаць.

А што наперадзе? З чым ісьці ў тую Эўропу? З калгасамі? Каго ўводзіць у *NATO*? Савецкіх палітрукоў? Чым гандляваць? Сыравінай? (Бо капраляктам, поліэтылен і сталёвы дрот — гэта для нас прадукцыя, а для Эўропы сыравіна!). Нарэшце, якія такія навуковыя, мастацкія і літаратурныя здабыткі прапанаваць можам? У якіх гатэлях і зь якой абслугай турыстаў прымаць зьбіраемся? Пытаньняў больш, чым адказаў... *Цывілізацыйны адрыў* беларусаў ад сьвету вылез бокам менавіта ў часы незалежнасьці. Калі няма больш ні савецкага, ні расейскага камуфляжу. Можа, таму і лямантуе апазыцыя дзікім галасам пра хуткую "інтэграцыю" ды "расейскую акупацыю", бо з тым камуфляжам нам усім было спакайней.

Беларусы шукаюць ня "месца ў Эўропе", а проста *спакойнага месца*. Перасядзець ліхі час і дурную свабоду.

**Спосаб Эўропы на Беларусь**

Эўропа будзе займацца намі не таму, што *хоча*, але таму, што *мусіць*. Таму гэты інтарэс будзе сонны і нудны, доўгі й няўстойлівы. Цяперашнюю лінію паводзінаў перадусім Польшчы і Нямеччыны, прагназаваць лёгка. Трэба мець кантакты зь Беларусяй, але не з "рэжымам Лукашэнкі". Трэба навязваць кантакты з той Рэспублікай Беларусяй у дробнагандлёвых гешэфтах (накшталт "Клаўсу" ў Лідзе). Трэба абяцаць, а часам і даваць дробную фінансавую дапамогу — экалёгія, інфраструктура, пазыкі пад імпарт *etc*. Але — старанна абмяжоўваць "палітычныя" кантакты — што з "рэжымам", што з "апазыцыяй". Бо колькі можна даваць грошы першаму, каб ён стаяў, а другой — каб яна ў працэсе змаганьня будавала сабе катэджы...

Эўропа цяпер зарыентаваная на "*разьмякчэньне*" тутэйшых парадкаў праз гаспадарчы ўплыў за *доўгі* час. Паўстане мноства фондаў, цэнтраў, катэдраў, будуць новыя і пэўныя рабочыя месцы для вечна галодных палітолягаў і сацыёлягаў *etc*.

Беларусь ня Сэрбія, а Лукашэнка не Мілошавіч. Беларусь не пагражае Эўропе грамадзянскай вайной і сотнямі тысяч уцекачоў. *Гніе паціху тая Беларусь — і няхай гніе.* Кожны мае права здохнуць так, як ён хоча.

Ад нашага беларускага *балота побыту* Эўропа спакойна адгародзіцца сваім *балотам бюракратыі*.

**Спосаб Беларусі на Эўропу**

Нам Эўропа патрэбная больш, чым мы ёй. Эўропа патрэбная Беларусі проста *ад расейскага страху*. Раптам пераменіцца заўтра лінія ў Крамлі? Бо спачатку Расея з Амэрыкай зьнюхаліся, каб падняць "Курск", цяпер зьнюхаліся, каб разьмяняць Чачэнію на Аўганістан, а заўтра возьмуць ды зьнюхаюцца на нашым "невялікім калхозе"... Таму Эўропа патрэбная Беларусі як "*трэцяя сіла*", гатовая падтрымаць нашу "стабільнасьць". А нам, беларусам, трэба толькі давесьці, што менавіта наш вайскова-міліцэйска-калгасны лад і парадак адпавядае тут яе, Эўропы, сьвятым інтарэсам.

*Чым далей, тым болей немцы будуць прывабныя для беларусаў больш за амэрыканцаў, а палякі больш за немцаў.*

Такім чынам, беларускі спосаб на Эўропу — аддацца ёй у доўгатэрміновую арэнду. Але пад поўным кантролем "нашага правіцяльства". Альбо — мы чакаем, просім і клічам усіх. Але ўсе, хто трапіць у нашыя лапы, маюць *жыць і гуляць па нашых правілах*. Скажаце, так па ўсім сьвеце? Так. Толькі правілы гульні да таго розныя, што цэлы сьвет мае нас за ідыётаў, а мы ўважаем усіх за гультаёў-"таргашоў" ды імпэрыялістаў-зладзеяў.

Беларускі спосаб жыцьця вельмі просты. "*Нам і так добра...*" Гэць, маскалі і эўрасрулі!

**Спосаб Расеі на Беларусь**

*Новай Расеі*, яе Пуціну, Касьянаву, Кудрыну і Грэфу, існаваньне незалежнай Рэспублікі Беларусі *надзвычай* карыснае. Не "паглыбленьне інтэграцыі" ў галаве, ня ціхае паглынаньне яе з сувэрэнітэтам разам, а менавіта *аддаленьне*, "мацаваньне" таго сувэрэнітэту. Тут ня ў сораме за такую вясковую маньку-сяброўку справа, а ў тым, што *новай Расеі* Рэспубліка Беларусь патрэбная як *стары Савецкі Саюз*. Каб было каму плакацца расейскім бальшавікам-пэнсіянэрам, каб было з кім сябраваць расейскім правінцыйным "бацькам" накшталт Кандраценкі ці Старадубцава. Каб жылі яны ў заміласаваньні тым аскалепкам СССР, жылі толькі ў ілюзіях і мроях, што ўсё "яшчэ вернецца" — як абяцаў вярнуцца фраер, якога скінулі зь дзявятага паверху. Каб у той новай Расеі *ціха і гладка* новы лад усталёўваўся — без калгасных сабатажаў, шахцёрскіх страйкаў, правінцыйна-сэпаратысцкіх *ГКЧП*, генэральскіх змоваў пад нябам Чачэніі. *Няхай лепш гэтыя рэлікты глядзяць на Рэспубліку Беларусь і думаюць, што зараз так будзе ў Расеі.* А Пуцін, Касьянаў, Грэф і Кудрын, чые дзеці ўжо лепш гаворыць па-ангельску, чым па-расейску, спакойна сабе дабудуюць прыстойны расейскі капіталізм. Трэба ж у рэшце рэшт давесьці справу Вітэ-Сталыпіна да лягічнага канца.

Другая расейская выгада існаваньня незалежнай Рэспублікі Беларусі ў тым, што ёсьць куды ўцячы фінансава-крымінальным зладзеям (маленькае Прыднястроўе ўсіх ужо не зьмяшчае!), якіх з самых розных прычынаў хапаць і судзіць расейскім уладам *нявыгадна*. Бо занадта шмат ведаюць. А забіваць *непрыгожа* — няхай ужо яны ў крайняй патрэбе "ціха зьнікаюць" у Беларусі. Бо Эўропа, як толькі зразумела, што людзі "ціха зьнікаюць" у Беларусі, адразу *забылася* на ціхія і не зусім тысячы сьмерцяў у Расеі.

Маленькая, але таксама выгада.

І трэцяя выгада — паколькі беларусы маюць сябе за працаўнікоў, а расейцаў за алькашоў і гультаёў, дык ад такога дурнога розуму згодныя рабіць за палавінную плату. Нават кваліфікаваныя будаўнікі, якіх толькі з Магілёва зьбіраецца да Лужкова ў Маскву блізка дзьвюх тысяч чалавек...

А дагледаць той *беларускі акварыюм* з прыручанымі рыбкамі для Расеі нядорага. Зразумела, пры добрых цэнах на нафту і газ ды салідным прафіцыце бюджэту, як сёлета. А калі дэфіцыт прыйдзе замест прафіцыту? Што ж, здохнуць рыбкі. Шкада, вядома, але такое жыцьцё.

**Post Scriptum**

Пададзеныя вышэй аналізы і высновы тычацца не часова актуальнага палітычнага ці гаспадарчага становішча, не канкрэтных моцных гэтага сьвету, але *самога чалавека*, ягонай псыхалёгіі. Бо няма нічога такога ўстойлівага на гэтым няўстойлівым сьвеце, як слабы маленькі чалавек.

***Алесь Чобат.***

"Наша Ніва"

ад 18 студзеня 2002 г.

# Урок духоўнасці

*Ва ўрочышчы Курапаты адбылося ўрачыстае ўзнаўленне мемарыяльнага знаку «Ад народу Злучаных Штатаў беларускаму народу» – мармуровай лаўкі, усталяванай у 1994 годзе прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, калі той першым і апошнім разам прыязджаў у Беларусь.*

Дзевяць месяцаў таму невядомыя вандалы разламалі знак. Па гэтым факце было праведзенае расследаванне, якое, праўда, не дало ніякіх вынікаў. Відаць, зламыснікаў не дужа і шукалі. Гэты акт вандалізму пацягнуў за сабой і іншыя сумныя падзеі ў курапацкім лесе. Так, праз нейкі час пасля разбурэння мемарыяльнага знаку тут за конт тэрыторыі Курапатаў, месца масавых пахаванняў ахвяраў сталінізму, пачалі пашыраць Мінскую кальцавую дарогу.

Аднаўленне мемарыяльнай лаўкі ў Курапатах амерыканцамі, што, у прынцыпе, павінны былі зрабіць мы самі, – гэта яшчэ адзін урок духоўнасці і цывілізаванасці для нас. Прыкра, што мы так паставіліся, па-першае, да падарунку, па-другое, да шанавання амерыканскім народам памяці бязвінна забітых людзей. Ужо не кажучы пра тое, што гэтыя людзі – нашыя суайчыннікі. Мерапрыемства па ўзнаўленні мемарыяльнай лаўкі сабрала амаль усіх прадстаўнікоў еўрапейскіх дыпламатычных місіяў у Беларусі. Адразу кідалася ў вочы адсутнасць прадстаўнікоў Расіі. Ад беларускага боку прысутнічаў намеснік міністра замежных справаў Аляксандр Сычоў.

Акрамя дыпламатаў ды журналістаў, урачыстасць наведалі прыкладна дзвесце актывістаў разнастайных апазіцыйных партый ды рухаў: КХП-БНФ, «Зубра», Маладога Фронту, Беларускай партыі Свабоды, Таварыства беларускай мовы ды іншыя. Сярод іх былі маладыя людзі, што нясуць у Курапатах кругласутачнае дзяжурства.



Амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак зачытаў кароткую прамову, пасля чаго адбылося выкананне гімна «Магутны Божа». Майкл Козак казаў аб тым, што з вялікім шкадаваннем даведаўся аб разбурэнні мемарыяльнага знаку і спадзяецца, што пасля рэстаўрацыі такіх інцыдэнтаў больш не будзе.

Пасля сканчэння афіцыйнай часткі мерапрыемства святары правялі ўрачыстую імшу ды асвяцілі лаўку.

***"Наша Свабода" ад 16 студзеня 2002г.***

***Ад рэдакцыі:*** *Нашы грамадзяне маюць слабае ўяўленне аб бясплатнай дапамозе ўрада, грамадскіх фондаў ЗША Беларусі. Пачынаем знаёміць чытачоў газеты з рознымі відамі дапамогі ЗША нашай краіне. Інфармацыя атрымана з сайта амбасады ЗША ў Беларусі.*

# Амерыканская гуманітарная дапамога Беларусі

"Акт у падтрымку свабоды для Расіі і новых еўразійскіх дэмакратый і адкрытых рынкаў" (FREEDOM Support Act), прыняты ў 1992 годзе, з'яўляецца асноваю партнёрства ЗША з Беларуссю і іншымі краінамі СНД. Пачатковае і наступнае фінансаванне накіраванае на беларускія палітычныя і эканамічныя пераўтварэнні праз дапамогу дэмакратычным ініцыятывам, грамадзянскім абменам, гуманітарную дапамогу і тэхнічную дапамогу ў сферы энергетыкі і аховы навакольнага асяроддзя.

Амерыканская гуманітарная дапамога Беларусі прадстаўляецца Урадам ЗША і праз прыватныя ахвяраванні, у тым ліку ад рэлігійных арганізацый і асобных амерыканскіх грамадзян, каб аблегчыць цяжкасці, што існуюць у гэты перыяд у эканамічнай і сацыяльнай сферах.

**"Сіціхоўп"**

Урадавыя агенцтвы Злучаных Штатаў перадаюць альбо садзейнічаюць у дастаўцы грузаў з прадуктамі харчавання і медыкаментамі, сабранымі амерыканскімі прыватнымі дабраахвотніцкімі арганізацыямі. Міністэрства абароны ЗША перадало лішкі сваёй маёмасці, з дапамогай якой былі укамплектаваныя некаторыя беларускія шпіталі і службы хуткай дапамогі. 23 красавіка 1996 года самалёт з грузам медыкаментаў коштам больш за 2 мільёны долараў прыбыў на Беларусь, адзначаючы дзесятую гадавіну аварыі на чарнобыльскай атамнай станцыі. Нязменным арганізатарам паставак гуманітарнай дапамогі на Беларусь з'яўляецца прыватная дабраахвотніцкая арганізацыя "Сіціхоўп". 3 мая 2001 года яна даставіла на беларусь партыю медыкаментаў на суму 7 мільёнаў долараў. Такі ж груз, дастаўлены 10 студзеня 2000 года, змяшчаў медыкаменты на суму больш за 4 мільёны долараў.

У 1996 годзе, аднак, уся дзейнасць па дастаўцы гуманітарнай дапамогі апынулася пад пагрозай, паколькі Амбасада ЗША і асноўны прыватны пастаўшчык гуманітарнай дапамогі на Беларусь "Сіціхоўп інтэрнэшнл" вырашылі прыпыніць дзейнасць гэтай арганізацыі на Беларусі з-за парушэнняў беларускімі ўладамі "Пагаднення аб супрацоўніцтве па палягчэнню прадастаўлення дапамогі". Урад Беларусі пастаянна аказваў фінансавы ціск на "Сіціхоўп" і яе беларускага партнёра "Надежда экспресс", спрабуючы абкласці падаткамі гуманітарныя пастаўкі і ў рэшце рэшт канфіскаваўшы значныя сумы з рахунку "Надежда экспресс".

"Сіціхоўп" аднавіла сваю дзейнасць на Беларусі, растлумачыўшы сваё рашэнне тым, што Беларусі неабходна медыцынская і іншая дапамога.

**Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID)**

Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці арганізуе шэраг праграм па дапамозе Беларусі. Ахова здароўя з'яўляецца адной са сфер, у якой гэтае урадавае агенцтва Злучаных Штатаў працуе асабліва актыўна. Пры непасрэдным удзеле кантракцёраў са Злучаных Штатаў, Агенцтва садзейнічала стварэнню ў Беларусі двух цэнтраў аховы здароўя жанчын - у Мінску і Мазыры.

**Фонд "Каунтэрпарт"**

Фонд "Каунтэрпарт", заснаваны ў 1965 годзе, з'яўляецца прыватнай дабраахвотніцкай арганізацыяй, якая падтрымлівае стварэнне і развіццё моцных мясцовых інстытутаў, якія маглі б задавальняць мясцовыя і рэгіянальныя патрэбы. Праграма гуманітарнай дапамогі "Каунтэрпарт" заклікана будаваць моцную грамадзянскую супольнасць у краінах, якія развіваюцца, праз партнёрства з мясцовымі арганізацыямі. Гэтае партнёрства, праз якое Праграма размяркоўвае дапамогу, заклікана дапамагчы мясцовым арганізацыям узмацніць іх здольнасць адпавядаць надзённым гуманітарным і іншым патрэбам. На праграму выдзяляюцца лішкі маёмасці міністэрства абароны ЗША, а таксама тавары з прыватных крыніц. Гэтыя тавары ўключаюць у сябе медыцынскае абсталяванне, школьную мэблю, вопратку, аўтамабілі і г.д. Сярод атрымальнікаў гэтай дапамогі - дзіцячыя дамы, шпіталі і клінікі, школы, асацыяцыі інвалідаў, ветэранскія і маладзёжныя арганізацыі. Дзейнасць Праграмы фінансуецца Дзярждэпартаментам ЗША і Агенцтвам ЗША па міжнародным развіцці.

Кантактная інфармацыя:

Фонд "Каунтэрпарт". Праграма гуманітарнай дапамогі Рэспубліцы Беларусь.Тэл.: (17) 220-55-55. Факс: (17) 220-25-51.

E-mail: chap_belarus@infonet.by

**Дапамога Камандавання Узброенымі сіламі ЗША ў Еўропе**

23 ліпеня 2001 года Генерал Джозеф Ролстан, Галоўнакамандуючы Узброенымі сіламі ЗША ў Еўропе і Пасол ЗША на Беларусі Майкл Козак адкрылі Цэнтр пералівання крыві пры гомельскай бальніцы хуткай дапамогі.

Дапамога Камандавання Узброенымі сіламі ЗША ў Еўропе засяроджваецца на пераадоленні наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі.

# НА СМЕРЦЬ ПАЭТА

Пры сённяшніх рэаліях, каб быць беларусам на Беларусі - трэба мець нямалую мужнасць. Вывучаючы гісторыю свайго народа, дзіву даешся, як яны яшчэ дажылі да нашых дзён і змаглі захаваць сваю самабытную культуру. Не злічыць тых выпрабаванняў, якія выпалі на лёс нашага шматпакутнага народа. Іх білі і душылі, а яны жывуць! Марылі голадам і перасялялі, а яны жывуць! Знішчаліся палеткі і руйнаваліся паселішчы ў вогненным віхуры шматлікіх войнаў, а яны жывуць!.. Розныя заваёўнікі гвалтам навязвалі ім свае культуры, а яны захавалі сваю! Іх прывучалі да розных рэлігій, а яны, па сутнасці засталіся язычнікамі. Хрысціянскім прапаведнікам нічога не заставалася рабіць, як падганяць свае рэлігійныя святы і іх назвы пад старадаўнія традыцыі беларусаў.

*Не самыя лепшыя гадзіны сваёй гісторыі* гэты народ перажывае і сёння. Прамаскоўская палітыка існуючай улады дае свае адмоўныя вынікі. Калі сам кіраўнік дзяржавы на ўвесь свет заявіў, што беларуская мова - бедная мова, то шкада і кіраўніка і дзяржавы.

Як выжыць у такіх умовах? Як зберагчы свае духоўныя каштоўнасці і тым самым захаваць сваю існасць, якая нас адрознівае ад іншых? Што трэба зрабіць, каб не зліцца ў адну шэрую масу і захаваць сваё, Богам дадзенае аблічча? Для гэтага кожны беларус, у якога засталаея яшчэ хоць кропля чыстай свядомасці, *павінен рабіць усё ад яго залежачае для* прапаганды нашай, пакуль яшчэ жывой беларускай існасці, бо над ёй ужо навісла рэальная пагроза знішчэння.

Замест таго, каб роўна ісці па шляху працвітання, праваслаўныя людзі прызвычаіліся кідацца ў крайнасці. А кідаюцца таму, што духоўна аслеплі. Сёння усе, каму ня лянота, валам павалілі у царкву. У адно імгненне усе сталі веруючымі, чаго на самой справе быць ня можа. Спачатку чалавеку трэба пабудаваць храм у сваёй душы, адшукаць бога ў сваёй свядомасці, а потым ужо вырашаць куды ісці. Усе гэтыя "веруючыя" забыліся, а *мо проста й ня ведаюць пра існаванне* прыгожага старадаўняга падання. У ім распавядаецца пра тое, як Бог рассяляў людзей па зямлі, то кожнаму народу дараваў асобную мову, дасканала валодаючы якой, чалавек мог мець паспяховыя зносіны з зямлёй, мог размаўляць з ёй і спасцігаць яе дзеля гарманічнага ўзаемаразумення, бо яна ж для нас і матуля і карміцелька. Мова даравалася Богам дзеля таго, каб кожны народ мог жыць у гармоніі з Прыродай.

Сёння беларусаў гвалтам адвучаюць ад роднай мовы і сілком адрываюць ад каранёў сваіх. І як вынік -- Беларусь на *мяжы жабрацтва. І ні якія аб'яднанні з* іншымі народамі не ўратуюць нас ад поўнага знікнення з твару Зямлі, калі мы страцім сваю існасць.

Усё гэта добра разумеў і наш зямляк, Беларус, Уладзімір Карпавіч Бандарэнка. Ён, як мог, змагаўся за вяртанне беларусам іх роднай мовы, рабіў усё, што было яму пад сілу — накуль не надарваўся. Ён быў і паэтам, і пісьменнікам, і публіцыстам, і краязнаўцам. Менавіта дзякуючы яму, лёзненцы ўпершыню зведалі шмат чаго цікавага пра малавядомыя гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі нашага раёна ў мінулым. Ён вывучаў іх шматлікія архіўныя дакументы і сустракаўся з цікавымі людзьмі, і ўсё гэта дзеля таго, каб праз свае працы давесці да свядомасці сваіх суайчыннікаў, як шмат яны чаго губляюць, адракаючыся ад каранёў сваіх. У яго была адна толькі мара: убачыць свой народ шчаслівым. Але, чым больш ён працаваў, тым больш сутыкаўся з непаразуменнем. Мала таго, што розныя там асобы ад улады, наўмысна рабілі яму *розныя жыццёвыя перашкоды*, дык і простыя людзі з-за сваёй духоўнай слепаты, не жадалі яго зразумець, а часам і проста ў адкрытую здзекваліся з яго. І як вынік усіх гэтых недарэчнасцяў - не вытрымала сэрца Чалавека...

Малалетні вязень, які перажыў усе жахі фашысцкай няволі, аказаўся бяссільным перад магутнай машынай антыбеларускага рэжыму, які пануе на зямлі ягоных продкаў.

Уладзімір Карпавіч вёў сваю вайну— вайну за Беларусь! Але паступова да яго пачаў даходзіць сэнс таго, што праводзімая ім вайна малаэфектыўная, што *гэта вайна адзінокага рыцара з ветра*камі. Не знаходзячы падтрымкі з боку суайчынікаў, не жадаючы жыць па навязаных антыбеларускіх законах, ён нечакана для ўсіх звёў рахункі з жыццём...

Недарэчная смерць. Але смерць няпростая: У. К. Бандарэнка не проста памёр -- ён загінуў! Смерць, гэта яго апошні, найвялікшы ПРАТЭСТ антыбеларускаму рэжыму, якому ен так і не скарыўся. Ён загінуў за сваю Радзіму! Што можа быць высакародней за гэты ўчынак!?

З дня трагічнай смерці паэта мінуў ужо год. Па хрысціянскай традыцыі на гадавіну *памяці былі запрошаны ўсе людзі*, якія летась праводзілі яго ў апошнії шлях. Усё было арганізавана на высокім узроўні. Не малыя сродкі былі ўкладзены родзічамі і сваякамі ў гэта турботнае мерапрыемства. Але адзіная думка не дае мне спакою: дзеля чаго жыў і дзеля чаго загінуў чалавек, на лёс якога выпала ў жыцці так шмат выпрабаванняў? А думкі мае невясёлыя таму, што на той вечарыне памяці на беларускай мове, за якую і загінуў наэт, размаўляў толькі адзін чалавек — старшыня раённай Рады ТБМ. Вось і паўстае само - сабой сумнае пытанне: за што загінуў чалавек?

Мы, яго бліжэйшыя паплечнікі і аднадумцы, абяцаем , што працягнем ягоную святую справу: вярнуць свайму народу яго родную мову!

***Алесь Сервер.***

## Имя его – "Мирон"

Подводя итоги прошлого года, мы вдруг обнаружили, что куда-то исчез красивый, полумифический, дерзкий народный герой, именовавший себя Мироном. Его выходки вызывали восхищение даже у тех, кто вынужден был бороться с их последствиями, а уж национально-ориентированная часть общества обожала даже мысль о том, что Мирон существует. И вот Мирон исчез.

Как нам удалось выяснить, утверждения, будто Мирона больше нет — неправда. Этот легендарный человек среднего возраста и сейчас живет в городском поселке Лиозно Витебской области. Но его имя ему уже не принадлежит. Да и не настоящее оно, это имя. Легенда, говорит, должна остаться легендой.

Первая акция Мирона состоялась в Лиозно в ночь на 15 мая 1995 года, сразу после первого референдума (напомним, одним из его результатов явилось изменение государственной символики). *Тогда впервые был вывешен* «незаконный» бело-красно-белый флаг. После этого флаги появлялись на высоких трубах, флагштоках зданий, линиях электропередач в Лиозно, Витебске, Минске... Там же обязательно оставлялась и записка с патриотическим текстом и подписью «Мирон». Чуть позже лиозненский подвиг повторился в Молодечно. На протяжении нескольких дней по ночам над зданием горисполкома вывешивался национальный флаг, который днем меняли на красно-зеленый. В этом случае подписи «Мирон» не было.

Милиция долго искала «провокатора». Наиболее активно — в 1996 году. Но так и не нашла. В том же году его псевдоним и «ноу-хау» переняли молодые люди, которые по ночам вывешивали флаги под «шильдой» Мирона в столице.

Первые конкретные персонажи, участвовавшие в церемонии «поднятия флага», стали известны после ночи на 7 марта 1996 года. Тогда была проведена первая акция «Маладога фронту» под названием «Горад наш». Она была приурочена к указу президента, которым запрещалось использование национальной символики. С тех пор «МФ» ежегодно проводит такую акцию.

И сам Мирон, и его «наследники» отмечают несколько «сигнальных» дат: день подписания договора о создании Содружества Беларуси и России, «День *запрета флага»— 14 мая и 8 сентября — годовщину битвы под Оршей.*

В последнее время по стране поползли слухи, что Мирон устал, что нет больше той веры, которая помогала ему совершать архисложные «вылазки», что Мирон якобы потерял квалификацию — ведь для такого рода занятий нужна, во-первых, специальная подготовка, а во-вторых — постоянная практика. Однако сам Мирон опровергает пессимистические прогнозы: «Хорошо, что Миронов стало много, и они действуют по всей стране. Надеюсь, что когда-нибудь в ряды Миронов встанет весь наш народ. Мои планы на будущее? Будут акции, не волнуйтесь. Но о моих планах никто не должен знать, так что уж извините. Не появилась ли апатия после президентских выборов? Нет, не появилась. Выборы, надеюсь, еще будут, а вот Беларусь надо спасать. Так что не беспокойтесь, в скором времени вы еще услышите о Мироне».

***«Белорусская деловая газета»***

**Заснавальнік і рэдактар** Міхал Космыкаў.
Адрас рэдакцыі: 211200, г.п. Лёзна, а.с.№27
Тэлефон 8-22-224925

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА "Фонд імя Льва Сапегі".
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 290 асобнікаў.